# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 12 (83) Сьнежань 2013 г.


## Віцебскага праваабаронцу не пусьцілі на паседжаньне па ўтварэньні выбарчай камісіі

**26 сьнежня прадстаўніка Рэспубліканскай праваабарончай арганізацыі "Беларускі Хэльсынскі камітэт» Леаніда Сьвеціка не дапусьцілі на сумеснае паседжаньне Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту і Прэзыдыюму Віцебскага гарадзкога Савету дэпутатаў па ўтварэньні тэрытарыяльнай выбарчай камісіі ў горадзе Віцебску.** Фармальнай прычынай нядопуску на паседжаньне стала адсутнасьць Леаніда ў сьпісе запрошаных.

Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь вызначана, што падрыхтоўка і правядзеньне выбараў ажыццяўляюцца адкрыта і галосна. Апроч таго, Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні ў Рэспубліцы Беларусь» дазваляе прадстаўнікам грамадзкіх арганізацыяў прысутнічаць на паседжаньнях выканаўчых і распарадчых органаў улады. Аднак патрабаваньне закону не было ўзятае ўладамі пад увагу — яны вырашылі не запрашаць праваабаронцу на паседжаньне гарадзкога выканкаму і прэзыдыюму Савету дэпутатаў.




**«Ужо на стадыі фармаваньня тэрытарыяльнай выбарчай камісіі ўлады пайшлі на відавочныя парушэньні патрабаваньняў дзеючага Выбарчага кодэксу краіны – не забясьпечылі адкрытасьць выбарчага працэсу. Таксама ўлады груба патапталі маё палітычнае права – непасрэдна і асабіста браць удзел у вядзеньні дзяржаўных спраў. Таму няма больш ані жаданьня, ані сэнсу далей назіраць за гэтымі "выбарамі"», – сказаў Леанід Сьвецік.**

## На мясцовых выбарах колькасьць дэпутацкіх мандатаў зьменшыцца

*У выніку карэктаваньня адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкаваньня на Віцебшчыне колькасьць "народных выбраньнікаў" у прадстаўнічых органах улады значна скароціцца.*

Паводле зьвестак упраўленьня арганізацыйна-кадравай работы Віцебскага аблвыканкаму, на Віцебшчыне трэба будзе абраць **3218 дэпутатаў**, зь іх **2329** - у сельскія і пасялковыя саветы. Агульная колькасьць мандатаў скароціцца прыкладна на **8,8%** у параўнаньні зь мясцовымі выбарамі 2010 году, нязьменным застанецца толькі іх колькасьць у абласным савеце (**60**). У сельскіх і пасялковых саветах стане менш на **233** месцы (або на **9%**), у гарадзкіх саветах - на **62** (амаль на **32%**).

Скарачэньне дэпутацкіх мандатаў зьвязана з аб'яднаньнем прадстаўнічых органаў улады Полацку, Воршы з адпаведнымі раённымі саветамі, а таксама скасаваньнем некалькіх сельскіх і пасялковых саветаў, выкліканым неабходнасьцю ўзбуйненьня адміністрацыйных адзінак і прывядзеньнем іх структуры ў адпаведнасьць з заканадаўствам. Такім чынам, агульная колькасьць мясцовых саветаў скарацілася на **6,7%** да **224**. Трэба будзе сфармаваць абласны, **21** раённы, **5** гарадзкіх саветаў у гарадах абласнога і раённага падпарадкаваньня, **197** сельскіх і пасялковых саветаў.

Цяперашняя выбарчая кампанія будзе мець шэраг асаблівасьцяў у параўнаньні з ранейшай. Паводле Закону "Аб унясеньні зьмяненьняў і дапаўненьняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаньнях правядзеньня выбараў і рэфэрэндумаў", які ўступіць у сілу у сьнежні 2013 году, кандыдаты ў дэпутаты атрымалі права фармаваць свае выбарчыя фонды. Прэтэндэнт на дэпутацкі мандат зможа балятавацца толькі па адной акрузе. Кандыдаты будуць абавязаныя пазначаць усе крымінальныя судзімасьці , якія мелі месца ў іх жыцьці, нават калі яны былі патушаныя ці зьнятыя. Апроч таго, тыя, хто ня мае афіцыйных крыніц даходу, будуць пазначаць у дэклярацыі пра даходы і маёмасьць крыніцу, за кошт якой яны існуюць. Таксама падчас выбарчай кампаніі пачне дзейнічаць норма, якая забараняе агітаваць за байкот выбараў.

## У склад Віцебскай абласной выбарчай камісіі ўключылі аднаго апазыцыянэра


Мікалай Селівашка

У Віцебскую абласную тэрытарыяльную выбачую камісію ўключаныя 13 сябраў з 17 прэтэндэнтаў. **Прадстаўнік Беларускай партыі левых "Справядлівы сьвет", старшыня абласной партыйнай арганізацыі Мікалай Селівашка** будзе адзіным у камісіі зь ліку віцебскіх дэмакратаў. **Намесьніка старшыні абласной арганізацыі партыі БНФ Кастуся Смолікава** ў камісію не ўключылі. Як не ўключылі і **праваабаронцу Паўла Левінава**, які вылучаўся шляхам падачы заяваў грамадзян.

Ахвотныя вылучаліся ад партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў (10 чалавек), ад грамадзян шляхам падачы заяваў (6 чалавек), ад працоўных калектываў (1 чалавек). Апрача Мікалая Селівашкі з партыйцаў у склад абласной выбарчай камісіі ўключаныя прадстаўнікі ЛДП, КПБ, Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасьці. Некалькі чалавек прадстаўляюць грамадзкія структуры - РГА "Белая Русь", ГА "БРСМ", Беларускае грамадзкае аб'яднаньне вэтэранаў, ГА "Беларускі саюз жанчын", прафсаюзных арганізацыяў. Рашэньне па фармаваньні камісіі было прынятае 26 сьнежня, першае арганізацыйнае паседжаньне абласной выбарчай камісіі прайшло 27 сьнежня.

Паводле **старшыні Віцебскага аблвыканкаму Аляксандра Косінца**, гэтыя выбары пройдуць у год 70-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў пэрыяд падрыхтоўкі да сьвяткаваньня 70-годзьдзя Перамогі, і таму *"неабходна правесьці выбарчую кампанію на самым высокім арганізацыйным узроўні, галосна і дэмакратычна"*.

## *Парушэньні выбарчага заканадаўства выпраўленыя праз чатыры гады*

**У выбарчай кампаніі Гарадоцкага райсавету 27 скліканьня выпраўленае парушэньне выбарчага заканадаўства аб утварэньні выбарчых акругаў, зь якім жылі дэпутаты райсавету амаль чатыры гады. Пад час ранейшай кампаніі 2010 году ў Гарадоцкім райсавеце было ўтворана 18 акругаў, памеры якіх па колькасьці выбаршчыкаў парушалі Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь.**

У частцы 6 артыкулу 15 гаворыцца, што "выбарчыя акругі ўтвараюцца з прыкладна роўнай колькасьці выбаршчыкаў: адхіленьне колькасьці выбаршчыкаў у выбарчай акрузе... па выбарах дэпутатаў адпаведнага мясцовага Савету дэпутатаў ад сярэдняй колькасьці выбаршчыкаў, якія прыходзяцца на выбарчую акругу ў гэты мясцовы Савет дэпутатаў, як правіла, не можа перавышаць 10 адсоткаў".




Колькасьць выбаршчыкаў на тэрыторыі Гарадоцкага раёну тады складала каля 20276 выбаршчыкаў. Гарадоцкім райсаветам для выбараў Гарадоцкага Савету дэпутатаў 26-га скліканьня была вызначаная колькасьць выбарчых акругаў — 31, пры гэтым сярэдняя колькасьць выбаршчыкаў на акругу складала 654 грамадзяніна. Такім чынам, адпаведна з патрабаваньнямі ч. 6 артыкулу 15 Выбарчага кодэксу колькасьць выбаршчыкаў у акрузе мусіла быць ад 588 выбаршчыкаў да 721 выбаршчыка.

Тады Гарадоцкая раённая камісія па прапанове Гарадоцкага райвыканкаму ўтварыла 31 выбарчую акругу з колькасьцю выбаршчыкаў у іх ад 420 да 842. Адхіленьні больш як на 10% ад сярэдняй колькасьці выбаршчыкаў былі ў 18-ці (!) выбарчых акругах. Дайшло да парушэньня канстытуцыйнага прынцыпу роўнасьці выбаршчыкаў у выбарчым праве, калі 841 выбаршчык Вайханскага сельсавету (акругі Прудніцкая і Вайханская) выбралі двух дэпутатаў Гарадоцкага райсавету, а 842 выбаршчыкі Кабішчанскай акругі толькі аднаго дэпутата.

Гэтае парушэньне заканадаўства зафіксаваў Леанід Гаравы, актывіст руху "За свабоду" і патрабаваў выпраўленьня парушэньня як у Гарадоцкай пракуратуры, так і ў Віцебскай абласной камісіі. Але толькі старшыня Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына прызнала парушэньне заканадаўства пры фармаваньні акругаў у Гарадоцкі райсавет. Дарэчы, падобныя парушэньні былі зафіксаваныя праваабаронцамі і ў большасьці іншых раёнаў Віцебскай вобласьці.

**Праз чатыры гады гэтае парушэньне супрацоўнікамі Гарадоцкага райвыканкаму, якія прапануюць колькасьць выбаршчыкаў у акругах па выбарах у райсавет, выпраўленае. Гэтым разам у Гарадоцкім раёне будзе 31 акруга, ў якіх зафіксавана 18906 выбаршчыкаў. Пры сярэднесьпісачным складзе акругі ў 610 выбаршчыкаў ніводная акруга не адхіляецца ад гэтай колькасьці больш як на 10%.**

# Пракуратура вынесла папярэджаньне Сяргею Рыжову

**«Пасьля разьмяшчэньня ў Інтэрнэце асуджэньня разгону ў Кіеве мірнага "Майдану", пасьля разьмяшчэньня інфармацыі пра тое, што Беларуская кансэрватыўная партыя "Белая Русь" асудзіла разгон ў 2012 годзе мірнай дэманстрацыі на Балотнай плошчы і зьбіраецца далучыцца да міжнароднай ініцыятывы аб правядзеньні Дня памяці ахвяр разгону сьнежня 2010 году ў Менску, пракуратурай Віцебскай вобласьці было вынесенае мне афіцыйнае папярэджаньне за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі»**, — паведаміў віцебскі палітык Сяргей Рыжоў.

Пад афіцыйным папярэджаньнем, якое было ўручанае Сяргею Рыжову 3 сьнежня, стаіць подпіс намесьніка пракурора Віцебскай вобласьці старшага дарадцы юстыцыі Георгія Караньк. Палітыку ставіцца ў віну тое, што ён неаднаразова выступаў з заявамі, прадстаўляючыся сустаршынём Беларускай кансэрватыўнай партыі «Белая Русь» і Міжнароднага руху «За новы сьвет! За абноўленага чалавека!», якія не зарэгістраваныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.




Сяргей Рыжоў

«Згодна з арт. 193-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, арганізацыя дзейнасьці альбо ўдзел у дзейнасьці палітычнай партыі, іншага грамадзкага аб'яднаньня, якія не прайшлі ў вызначаным парадку дзяржаўную рэгістрацыю, караецца штрафам, альбо арыштам на тэрмін да шасьці месяцаў, альбо пазбаўленьнем волі на тэрмін да двух гадоў», — гаворыцца ў папярэджаньні, якой атрымаў віцебскі палітык.

У 2011 годзе Эўрапейская камісія за дэмакратыю праз права (Вэнэцыянская камісія) прызнала, што артыкул 193-1 Крымінальнага кодэксу, пра недапушчальнасьць парушэньня якога пракуратура папярэдзіла Сяргея Рыжова і які прадугледжвае крымінальную адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, не адпавядае міжнародным прававым нормам. Беларускія і замежныя праваабаронцы ня раз выступалі з патрабаваньнем адмены гэтага артыкулу КК.

**Сяргей Рыжоў заявіў, што з папярэджаньнем ня згодны, і мае намер абскардзіць яго ў Генэральную пракуратуру.**

# *Віцебскі абласны суд не задаволіў скаргу Хрыстафора Жаляпава і Аляксея Гаўруцікава*



Хрыстафор Жаляпаў, Аляксей Гаўруцікаў

Віцебскія актывісты спрабавалі аспрэчыць рашэньне Кастрычніцкага райсуду, куды зьвярталіся пасьля атрыманай забароны на шэсьце і мітынг салідарнасьці зь Ігарам Пастновым. **Абласны суд адхіліў скаргу, пагадзіўшыся з райсудом. Віцебскія актывісты лічаць, што іх правa на мірныя сходы парушыў спачатку гарвыканкам, які вынес забарону, потым раённы суд, які прызнаў гэтую забарону законнай, а цяпер яшчэ і абласны суд.**

Усе гэтыя тры інстанцыі аргумэнтавалі сваю пазыцыю, абапіраючыся на рашэньне Віцебскага гарвыканкаму аб правядзеньні масавых акцыяў, гаворыць Аляксей Гаўруцікаў:

"28 верасьня мы зьбіраліся правесьці шэсьце і мітынг салідарнасьці з урачом Ігарам Пастновым, які на той час знаходзіўся на прымусовым псыхіятрычным лячэньні. Хацелі выказаць пратэст супраць выкарыстаньня псыхіятрычных мэдычных установаў супраць грамадзянаў, якія выказваюць сваю нязгоду з уладамі. Але атрымалі забарону ад гарвыканкаму — маўляў, мы не прыклалі дамоваў на абслугоўваньне акцыяў, што патрабуецца ў адпаведнасьці з рашэньнем гарвыканкаму. Але ў тым рашэньні ня згадваюцца шэсьці — толькі пікеты і мітынгі. Адпаведна, у нас быў шанец атрымаць дазвол без уліку гэтага рашэньня. Аднак чыноўнікі вырашылі інакш, Кастрычніцкі райсуд падтрымаў гэтае рашэньне. І пастанавіў, што нам адмоўлена ў правядзеньні акцыяў на законных падставах. Цяпер і абласны суд падтрымаў гэтую пазыцыю".

Аляксей Гаўруцікаў падкрэсьлівае, што **рашэньне гарвыканкаму № 881 "Аб масавых мерапрыемствах у Віцебску" практычна невыканальнае, і што менавіта яно – галоўная перашкода, каб скарыстацца з права на арганізацыю масавых акцыяў:**

"Усе нашы ранейшыя спробы напярэдадні пікетаў ці мітынгаў заключыць дамовы з адказнымі структурамі канчаліся крахам. Ні міліцыя, ні цэнтральная гарадзкая паліклініка не пагаджаюцца на супрацоўніцтва, пакуль няма дазволу на акцыю ад органу ўлады. А ўладныя структуры патрабуюць такіх дамоваў. Атрымліваецца зачараванае кола, у якім мы круцімся ўжо тры з паловай гады. За гэты час віцебскім апазыцыянэрам не ўдалося атрымаць ніводнага дазволу на правядзеньне масавых акцыяў".

# У дзень прыняцьця Ўсеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека праваабаронца атрымаў «віншаваньне» ад судзьдзі

**Пётар Іваноў** зладзіў акцыю, прымеркаваную да Дня правоў чалавека, які адзначаецца 10 сьнежня. Ён выйшаў у цэнтар Віцебску, дзе раздаў мінакам з паўсотні асобнікаў Усеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека, прынятай 65 гадоў таму генасамблеяй ААН. Не забыў падарыць асобнікі дэклярацыі і супрацоўнікам суду, куды быў выкліканы ў гэты дзень. Судзьдзя Натальля Карабліна не засталася ў даўгу: яна парупілася, каб праваабаронца таксама не застаўся без «падарунку», абдарыўшы яго штрафам.

Сума штрафу, накладзенага на Пятра Іванова, склала 15 базавых велічынь (1 мільён 950 тысяч рублёў). Такому пакараньню ён быў падвергнуты за кіраваньне асабістым аўтамабілем з пасьведчаньнем кіроўцы, выдадзеным яму Расейскай Фэдэрацыяй. Адміністрацыйная справа Пятра Іванова была разгледжаная ў судзе Першамайскага раёну Віцебску.

Паводле слоў праваабаронцы, ён спадзяваўся, што хаця б раз на год суд будзе незалежным, бесстароньнім і справядлівым. На пачатку судовага паседжаньня ўсіх удзельнікаў працэсу Іваноў павіншаваў са сьвятам — Усясьветным днём правоў чалавека.

**«Але сьвята не атрымалася. Бо ў габінэт судзьдзі, у якім яна праводзіла судовае паседжаньне, па адным і групамі сталі наведвацца супрацоўнікі міліцыі. Гэта яўна адцягвала ад асноўнай працы судзьдзю. Разам з разглядам справы яна паралельна вырашала адразу некалькі іншых пытаньняў. У габінэце таксама працавала на кампутары сакратарка суду, якая падчас працэсу сноўдалася па выкліках міліцыянтаў за дзьверы габінэту і назад»**, — паведаміў пра судовае паседжаньне Пётар Іваноў.



Пётар Іваноў

Ён распавёў, як далей разьвіваліся падзеі: **«Бачачы настолькі выразную абыякавасьць да адміністрацыйнай справы, што разглядалася, і да маіх тлумачэньняў, я стаў упрошваць судзьдзю стварыць працоўную абстаноўку, не адхіляцца на іншыя справы і не замінаць дачы тлумачэньняў па справе. Гэтыя ўгаворы не падзейнічалі. Пасьля ўварваньня ў габінэт судовага паседжаньня групы супрацоўнікаў міліцыі, чым у чарговы раз былі перапыненыя мае тлумачэньні суду, я зрабіў ветлівую і карэктную заяву пра фактычнае пазбаўленьне мяне судом магчымасьці даваць тлумачэньні ў нармальнай абстаноўцы і з гэтай прычыны быў вымушаны пакінуць судовае паседжаньне».**

Па заканчэньні паседжаньня Іваноў даведаўся пра тое, што суд пакінуў бязь зьменаў адміністрацыйнае спагнаньне, раней накладзенае на яго начальнікам міжраённага аддзелу ДАІ УУС Віцебскага аблвыканкаму падпалкоўнікам міліцыі Аляксандрам Сьцяпанавым. У кнігу заўвагаў і прапаноў судовай установы ім быў унесены запіс пра непавагу з боку суду да ўдзельніка судовага працэсу.

# Праваабаронцу Паўлу Левінаву забаранілі ладзіць пікеты ў Дзень правоў чалавека



Павал Левінаў

Тры пікеты, па адным у кожным з раёнаў Віцебску, мусілі адбыцца 10 сьнежня, у Сусьветны дзень правоў чалавека. Нягледзячы на тое, што пікеты плянаваліся як адзіночныя і працягласьць кожнага зь іх складала б толькі адну хвіліну, — улады палічылі немагчымым іх правядзеньне без дамоваў аб мэдычным абслугоўваньні зь лекарамі, аб ахове зь міліцыянтамі і аб прыборцы тэрыторыі са сьмецьцярамі.

Наяўнасьці названых дамоваў патрабуе рашэньне № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску», прынятае Віцебскім гарвыканкамам у 2009 годзе. Кіраўніцтва пералічаных у рашэньні службаў усяляк ухіляецца ад заключэньня гэткіх дамоваў з праваабаронцамі, грамадзкімі актывістамі і сябрамі апазыцыйных партыяў, таму правесьці легальна якую-небудзь акцыю ў Віцебску практычна немагчыма.

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.